

# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №13 (155)
ВЕРАСЕНЬ 2022 ГОДА

БУДАЎНІЦТВА

## ВАКЦЫНУ БУДУЦЬ ВЫРАБЛЯЦЬ ЛЯ МОГІЛЬНІКУ ЖЫВЁЛЫ?

**Грамадскае аб'яднанне «Экадом» звярнула ўвагу на справаздачу аб уплыве на асяроддзе будаўніцтва цэху ў Віцебскай вобласці, дзе збіраюцца выраблять вакцыну ад каронавірусу.**

У гэтай справаздачы бачна, што з пляцоўкай суседнічае могільнік жывёлы, які можа кепска ўплываць на водныя рэсурсы. Ліквідацыя могільніка толькі «рэкамендаваная», але ніякіх праектных работаў адносна гэтага прадугледжана.

«Могільнік быдла выкарыстоўваўся для пахавання трупаў жывёлаў пасля выпрабавання на іх эфектыўнасці вакцынаў, якія выраблюцца на прадпрыемстве. Ён дастаткова глыбокі, – тлумачыць «Экадом». – У парушэнне экалагічных і санітарна-гігіенічных нормаў могільнік размешчаны ў водаахоўнай зоне возера Должа і ў зоне санітарнай аховы артэзіянскай свідравіны.

Гэтая свідравіна служыць для водазабеспячэння ўсяго населенага пункта Должа і самога «БелВітуніфарму». Гэта значыць, у цяперашні момант выкарыстоўваецца вада, на якую гэты могільнік можа аказаць уплыў. У тым ліку мы гаворым аб вадзе, якая будзе выкарыстоўвацца ў тэхналагічным працэсе падрыхтоўкі вакцынаў».

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб будаўніцтве цэху ў Должы 3 лістапада 2021 года. Ён абяцаў аналаг замежнай вакцыны ад COVID-19, «які павінен быць роўны па эфектыўнасці лепшым узорам іншых краінаў, а па кошце, натуральна, танней». На другім этапе праекту запланаванае будаўніцтва да 2023-2024 года вытворчага комплексу, які будзе выраблять вакцыну па поўным цыкле. Тэсты беларускай вакцыны праводзяць з пачатку 2022 года. У жніўні Лукашэнка казаў, што вакцыну пачнуць разліваць ужо неўзабаве.

Сама ідэя выраблять уласную вакцыну ад каронавірусу сумнеўная: можа атрымацца нявыгадны і стратны праект, тлумачыў былы прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Вайтовіч.

**А.Адамаў**

Чытайце сайт Віцебскага раёна:
http://vicebskreg.by

ДАРОЖНЫ РУХ

## АСЦЯРОЖНА! НЕ СПЯШАЙЦЕСЯ!

**У Беларусі за паўгода на дарогах загінулі амаль 1500 буйных жывёл. Адных казуль — больш за тысячу.**



У першым паўгоддзі на беларускіх дарогах у ДТЗ загінулі амаль 1500 жывёл, расказалі ў Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага свету.

За шэсць месяцаў 2022 года зафіксавана 1470 ДТЗ, у якіх загінула 1496 жывёл.

Часцей за ўсё падчас аварый гінулі казулі (1066 асобін) і ласі (344 асобіны). Акрамя таго, у ДТЗ загінулі 33 алені, 49 дзікоў і чатыры бабры.

Дзікія жывёлы выходзяць на аўтадарогі па розных прычынах. Часцей за ўсё — пры сезонных зменах месца пражывання, а таксама пры перасоўванні да месцаў кармлення.

«Некаторых дзікіх жывёл прыцягваюць раскіданыя дарожнымі арганізацыямі пясчана-салевыя сумесі, многія дзікія птушкі знаходзяць на ўзбочынах дарог дробныя каменьчыкі, неабходныя для стрававання. Часам дзікія жывёлы выходзяць на асфальт проста пагрэцца і абсохнуць ад расы, бо тэмпература асфальту звычайна вышэйшая за тэмпературу паветра. Нярэдка дзікія жывёлы выбягаюць на аўтадарогі пры пераследзе іх драпежнікамі або паляўнічымі сабакамі», — паведамілі ў Дзяржінспекцыі.

Таксама кіроўцам варта памятаць, што дзікія жывёлы найбольш актыўныя ў цёмны час сутак, таму ў прыцемках варта праяўляць павышаную пільнасць. Большую небяспеку ўяўляюць участкі дарог з дрэвамі і кустамі.

«Калі лось, алень, заяц або іншае дзікая жывёла ў начны час аказваецца ў святле фар, яна асляпляецца. Цемра за межамі пучка святла ўспрымаецца як сцяна і жывёліна, як правіла, пачынае кідацца, не бачачы нічога, акрамя асветленага ўчастка дарогі і запаленых фар. У такой сітуацыі варта спыніцца, выключыць святло фар (але пакінуць уключанымі габарытныя агні), уключыць аварыйную светлавую сігналізацыю, тым самым даць жывёліне час адаптавацца да цемры і пакінуць дарогу», — удакладнілі ў Дзяржінспекцыі.

У ведамстве таксама нагадалі, што пры выяўленні на дарогах параненых, траўмаваных, хворых або мёртвых дзікіх жывёл забараняецца іх забіраць, разбіраць ці перамяшчаць. Пра выяўленне тушы дзікай жывёліны неабходна паведаміць у міліцыю.

**А.Смаленскі**

МАЁМАСЦЬ

## ВСЁ ПРОДАЛИ В РАЙОНЕ?

**На сайте Витебского комитета государственного имущества всегда с интересом заглядываю на страничку продажи недвижимости: неиспользуемых строений, домов, закрытых школ и детских садов, долгостроев и заброшек.**

Из более чем 70 предложений о продаже имущества на проводимых до конца сентября аукционах Витебскому району соответствуют всего два. Это неиспользуемое здание почтового отделения связи, расположенные по адресу: Витебская обл., Витебский р-н, Шапечинский с/с, д. Осиновка, ул. Центральная, 1а (узнать что же хотят устроители не получается, наверное какие-то технические проблемы) и бывшее здание школы в Больших Лётцах.

Последнее предложение интересное. Ведь отдел по образованию витебского районного исполнительного комитета продаёт неиспользуемое здание школы (расположенное по адресу: Витебская обл., Витебский р-н, Летчанский с/с, д. Большие Лётцы, ул. Школьная, д. 40а. двухэтажное кирпичное, общей площадью 1958,2 кв.м, 1970 года постройки (реконструкция в 2020 году), при нём земельный участок площадью 2,5783 га, сроком аренды на 50 лет, начальная цена предмета аукциона 54 233,26 рублей, сумма задатка 10 846,00 рублей) с понижением цены продажи недвижимого имущества на 80 процентов уже не первый раз.

Наверное, стоит сходить 27 сентября на проводимый аукцион, куда допускают присутствовать всех желающих, что-бы насладиться азартными торгами за заветную недвижимость вблизи Витебска, к тому же, расположенную возле озера. Или не получится торгов?

**А.Адамов**

ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## КОРОВЬЕ СТАДО СОКРАЩАЕТСЯ

**В сельхозорганизациях Витебской области на 1 августа оставалось 183 400 коров.**

С начала года поголовье коров в регионе сократилось на 4800 животных, при этом за июнь и июль — на 400 голов.

В пастбищный период темпы выбытия скота удалось значительно сократить, например, весной стадо уменьшилось на 3100 коров.

Поголовье крупного рогатого скота в Витебской области при этом сократилось до 523 700 животных, тогда как на начало лето насчитывалось 524 100 голов.

Год назад на эту дату в хозяйствах Витебщины количество скота было больше на 4500 коров и 10 700 голов КРС в целом.

**Сяржук Серабро**
**ННВ**

ГРАМАДЗЯНСТВА

# КАНСТЫТУЦЫЯ НЕ ЎКАЗ?

**Карбалевіч: «Нават у новай канстытуцыі 2022 года напісана, што грамадзянін Беларусі не можа быць пазбаўлены грамадзянства»**

– Я памятаю мінулым годам было шмат разважанняў пра амністыю напярэдадні 3-га ліпеня і так званага Дня адзінства 17-га верасня. Тады вялікія высілкі былі ў кіраўніцтва гэтых установаў, дзе людзі сядзяць за кратамі, якое настойліва патрабавала ад палітвязняў пісаць нейкія прашэнні аб памілаванні, – нагадвае Валер Карбалевіч у сваім відэакаментары.

– Юры Васкрасенскі тады падключыўся да гэтай справы і сказаў, што там ці 100 ці нават 600 заяваў паступіла з просьбай аб памілаванні ад палітвязняў. У выніку ведаецца, колькі выпусцілі? Усяго толькі 13. То бок, з вялікая кампаніі атрымаўся вялікі пшык.

Таму эксперт не выключае, што і цяпер можа атрымацца нешта падобнае.

– Сёння, калі не памыляюся, 1321 палітзняволены, – працягвае Карбалевіч. – А, калі нават набярэцца сотня амніставаных, то гэта зусім не шмат. Таму трэба пачакаць вынікаў. Тым больш, што Лукашэнка паставіў там вялікія ўмовы: каб пакаяліся, каб сталі на шлях выпраўлення, каб неяк даказалі, што яны ўжо не супраць. Таму ў мяне вялікіх чаканняў на гэты конт няма.

Лукашэнку падабаюцца людзі, якія, як ён лічыць, маральна зламаныя, якія просяць аб памілаванні, якія каюцца. Яго гэта задавальняла яшчэ ў часы да 2020 года, калі ён усяляк падштурхоўваў палітвязняў, каб яны пісалі такія прашэнні, а цяпер гэта зусім ужо іншы маштаб.

Карбалевіч яшчэ раз падкрэслівае, што ў беларускім палітычным рэжыме ўсе прынцыповыя рашэнні прымае Лукашэнка.

– Гэта персаналісцкі рэжым, рэжым асабістай улады, таму ўсе важныя рашэнні замыкаюцца і зацыкліваюцца на ім. І асабліва Лукашэнка любіць прымаць рашэнні адносна нейкіх людзей: садзіць у турму або вызваляць. І гэта тая ўлада, ад якой ён атрымлівае асалоду.

Што тычыцца пазбаўлення грамадзянства, – працягвае палітычны аналітык, – то, сапраўды, нават у новай канстытуцыі 2022 года ясна і дакладна напісана, што грамадзянін Беларусі не можа быць пазбаўлены грамадзянства. Кропка. І ніякіх варыянтаў тут быць не можа.

Таму любы закон па пазбаўленні грамадзянства ёсць антыканстытуцыйным. Але зразумела, сёння ў Беларусі на канстытуцыю, нават на тую, што толькі што прынялі, ніхто не звяртае ўвагі.

І проста лагічна ўзнікае пытанне – навошта наогул у гэтую канстытуцыю заносілі гэтае палажэнне, калі яго можна было папросту не заносіць. Зразумела, што гэта грубае парушэнне правоў чалавека, грубае парушэнне беларускай канстытуцыі, але сённяшні рэжым на гэта не звяртае ўвагі, бо стаіць пытанне пра яго самавыжыванне.

Да таго ж, на думку эксперта, апошняя нарада ў Лукашэнкі сведчыць пра тое, што Лукашэнка не ўпэўнены, што ён баіцца паўтарэння пратэстаў і што палітычная эміграцыя для яго небяспечная.

– І гэта сапраўды новая сітуацыя, – адзначае Карбалевіч, – бо была ў Беларусі палітычная эміграцыя, пачынаючы ад Рады БНР, потым Зянон Пазняк або Андрэй Саннікаў. Але ж нейкай вялікай небяспекі для рэжыма гэта не складала. Пасля 2020 года практычна ўся палітычная апазіцыя апынулася за мяжой, таму што існаванне палітычнай апазіцыі ўнутры краіны стала немагчымым. Гэта першае.

Другое ў тым, што практычна ўсе незалежныя медыі апынуліся за мяжой таксама. Яны працягваюць працу і транслююць усю інфармацыю ўнутры краіны праз тэлеграм-каналы і іншыя інтэрнэт-рэсурсы. І гэта, сапраўды, стала небяспечным для рэжыма, гэта ўплывае на беларускае грамадства і таму гэтую небяспеку ўлады хочуць нейтралізаваць такімі дзеяннямі з парушэннем канстытуцыі.

Што тычыцца крыжовага пахода на ўладальнікаў карты паляка, па меркаванні Карбалевіча, гэта даволі лагічна.

– Сёння Польшча, як і увесь Захад, аб'яўлена ворагам. Аб'яўлена, што Польшча імкнецца захапіць ці то частку, ці то ўсю Беларусь, – тлумачыць эксперт. – І тут на тэрыторыі Беларусі жывуць людзі, якія маюць карту паляка, то бок маюць дакумент гэтай варожай дзяржавы, і гэта людзі з двайной лаяльнасцю.

А, як такое можа быць у краіне, якая, па сутнасці, аб'явіла дыпламатычную, ідэалагічную, палітычную і псіхалагічную барацьбу суседняй Польшчы? Аказваецца, што тут у тылу цэлая пятая калона.

На 2022 год 160 тысяч беларусаў мелі карту паляка, то бок гэтых людзей нямала, а ў гэтай канфліктнай сітуацыі гэта людзі, якія, па меркаванні Лукашэнкі, з'яўляюцца пагрозай існаму рэжыму. Таму адносна іх і пачынаюцца вось такія разборкі.

**gazetaby.inf**

КРЫМІНАЛ

# ОБВИНЯЮТСЯ ВЕТВРАЧ И ЗООТЕХНИК

**Уголовное дело за подлог возбуждено в отношении ветврача и зоотехника одного из хозяйств Витебского района.**

Факт составления ложных документов о падеже скота установили милиционеры из Витебского РОВД, сообщили в отделении информации и общественных связей УВД облисполкома.

Правоохранители выяснили, что махинациями занимались ветеринарный врач и зоотехник одного из хозяйств района. С июня по август текущего года они скрыли падеж почти 70 голов скота.

По результатам проверки, которую осуществили сотрудники по борьбе с экономическими преступлениями, в отношении подозреваемых было возбуждено уголовное дело за подлог.

К сожалению, правоохранители не сообщают название хозяйства, где творились такие "безобразия", когда за три месяца "скрылись" почти 70 голов КРС, что удивительное, в разгар лета и достатка кормов, и раньше такого не бывало в этом хозяйстве?

Будем следить за действиями правоохранителей и следствия, может и в других хозяйствах Витебского района не всё так сходится в бумагах?

**А.Адамов**

РЭХА ВАЙНЫ

# ТРАКТОРИСТ НАШЕЛ В ПОЛЕ БОЕПРИПАСЫ

**Сообщение об обнаружении опасной находки поступило в Витебский РОВД утром 10 сентября.**

В милицию позвонил представитель сельхоз-организации и рассказал, что во время уборки картофеля на поле возле деревни Бондари тракторист нашел боеприпасы времен Великой Отечественной войны.

Прибывшие на место происшествия сотрудники саперной группы воинской части 5524 провели обследование местности. В результате ими были найдены 22 артиллерийских снаряда различных калибров, 7 гранат «Ф-1», 6 мин и 27 взрывателей.

Весь арсенал был вывезен в безопасное место и уничтожен, сообщили в отделении информации и общественных связей УВД Витебского облисполкома.

**Прес-служба УВД**

СПОРТ

# СПАРТЫЎНЫ КЛУБ ЛІКВІДУЮЦЬ

**Згодна з рашэннем Віцебскага абласнога суда, з 4 траўня грамадскае аб'яднанне Клуб амерыканскага футбола «Віцебскія Рысі» знаходзіцца ў стане ліквідацыі. Спартовая арганізацыя, якая папулярызавала любімую многімі ў свеце гульню, праіснавала амаль 6 гадоў.**

Ініцыятарам знішчэння клуба стала кіраўніцтва галоўнага ўпраўлення юстыцыі Віцебскага аблвыканкама. У апошнія два гады ліквідацыя грамадскіх аб'яднанняў стала ўніверсальным і эфектыўным спосабам «развіцця» грамадзянскай супольнасці на Віцебшчыне, адзначаюць праваабаронцы.

Каманда па амерыканскім футболе «Віцебскія рысі» з'явілася ў 2013 годзе. Праз два гады яна атрымала рэспубліканскае прызнанне, калі выйграла кубак Вітаўта Вялікага ў Мінску. Каманда прыняла ўдзел у турнірах Балтыйскага дывізіёна Усходняй лігі амерыканскага футбола і зацвердзіла свой статус моцнага спартыўнага клуба.

Заснавальнікам, ідэйным натхняльнікам і першапачатковым спонсарам каманды стаў вядомы ў Віцебску прадпрымальнік Кірыл Шве-даў.

Галоўнае ўпраўленне юстыцыі Віцебскага аблвыканкама 27 верасня 2016 года зарэгістравала ГА КАФ «Віцебскія Рысі». Заснавальнікі арганізацыі дэкларавалі яе мэты як развіццё і папулярызацыю амерыканскага футбола ў Беларусі і на міжнароднай арэне.

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Амерыканскі футбол» было створанае пры ўдзеле 6 беларускіх каманд: Варвары (Гродна), Зубры (Мінск), Літвіны (Мінск), Паганцы (Мінск), Рысі (Віцебск) і Вартавыя (Брэст)

Рашэннем Нацыянальнага алімпійскім камітэтам Рэспублікі Беларусь 16 студзеня 2018 года дзяржава прызнала на два гады РГА «Амерыканскі футбол» адзінай спартыўнай арганізацыяй, закліканай развіваць амерыканскі футбол на тэрыторыі Беларусі і надзяліла яе правам прадстаўляць краіну ва ўсіх міжнародных арганізацыях.

На працягу 2018 года аб'яднанню ўдалося наладзіць афіцыйныя адносіны і заключыць пагадненні аб супрацоўніцтве з федэрацыямі амерыканскага футбола краін-суседзяў.

**А.Адамаў**

БЮДЖЭТ

# ЕЖА — АСНОЎНЫ АРТЫКУЛ ВЫДАТКАЎ БЕЛАРУСАЎ

**Абследаванне хатніх гаспадарак паказала, як выраслі спажывецкія выдаткі беларусаў за год.**

Спажывецкія выдаткі — гэта грашовыя выдаткі хатніх гаспадарак на харчаванне (у тым ліку грамадскае харчаванне), куплю алкагольных напояў, тытунёвых вырабаў, нехарчовых тавараў і аплату паслуг.

Даныя за 2 квартал гэтага года паказваюць, што кожная хатняя гаспадарка на спажывецкія патрэбы ў сярэднім выдаткоўвае 1225 рублёў у месяц. Гэта амаль 72% ад усіх грашовых выдаткаў сям'і, сведчыць інфармацыя Белстата, адзначае Thinktanks.by.

У параўнанні з 2 кварталам мінулага года спажывецкія выдаткі выраслі на 8,8% у наміналe, пішуць Банкі24.

Асноўная доля выдаткаў прыпадае на прадукты харчавання — 469,5 рублёў або 38,3%. У наміналe выдаткі на харчаванне павялічыліся на 8,3% — без папраўкі на рост коштаў.

Іншыя артыкулы расходаў сям'і ў месяц:

на жыллё — 124,3 рублёў,

на транспарт — 124,6 рублёў,

на інфармацыю і сувязь — 85,1 рублёў,

на ахову здароўя — 73,9 рублёў,

на адзенне і абутак — 74,2 руб,

на прадметы ўжытку, бытавую тэхніку і догляд за домам — 68,4 руб.

Розніца паміж спажывецкімі выдаткамі вёскі і горада складае 324 рубля. У горадзе Мінску ў сям'і штомесяц выдаткоўваюць 1545 рубля, а ў Магілёўскай вобласці — 1072 BYN

Што тычыцца сацыяльных груп, то выдаткі выглядаюць так:

пенсіянеры — 800 BYN,

малазабяспечаныя сем'і — 705 BYN,

хатнія гаспадаркі без дзяцей — 1021 BYN,

у хатніх гаспадарках з дзецьмі да 18 гадоў — 1769 BYN.

Мінск вылучаўся на фоне абласцей па спажывецкіх выдатках у 2 квартале.

**А.Адамаў**

ГОД ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ

# БІТВА ПАД ОРШАЙ. СЛАЎНАЯ ПЕРАМОГА НАШЫХ ПРОДКАЎ

**8 верасня 1514 года адбылася знакамітая Бітва пад Оршай. Вялікае сражэнне паміж саюзнымі войскамі Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і Каралеўства Польскага пад агульным камандаваннем гетмана Канстанціна Астрожскага і войскам Вялікага княства Маскоўскага пад камандаваннем ваяводы Івана Чалядніна.**



*Бітва пад Воршай. Карціна невядомага аўтара.*

**Ход вайны да Аршанскай бітвы**

У канцы лістапада 1512 года Вялікае княства Маскоўскае пачынае новую вайну супраць Вялікага княства Літоўскага. Да таго ж у наступным годзе ў Еўропе пачынае ствараца кааліцыя, накіраваная супраць ВКЛ і Польшчы. Ініцыятарамі яе стварэння сталі імператар Святой Рымскай Імперыі Максіміліян І і Вялікі князь Маскоўскі Васіль ІІІ.

Самым усходнім фарпостам Вялікага княства і адным з найважнейшых апорных пунктаў, якія ахоўвалі яго з гэтага боку, была на той момант крэпасць Смаленска. У 1513 годзе маскавіты двойчы спрабавалі захапіць горад, але дзякуючы мужнасці смалян і добра пастаўленай абароне, гарадкане абодва разы здолелі прымусіць ворага адступіць. Аднак маскоўскі князь не спыняўся ў сваіх намаганнях захапіць Смаленск. Ён добра разумеў, што нельга нават мроіць аб далейшым працягу вайны, калі ты маеш моцную варожую крэпасць у тыле. Летам 1514 года маскавіты ў чарговы раз аблажылі Смаленск. Не вытрымаўшы аблогі і артылерыйскіх абстрэлаў, на гэты раз гераічны горад быў вымушаны здацца. 1 жніўня Васіль ІІІ урачыста заехаў у Смаленск, дзе прызначыў сваім намеснікам князя Васіля Шуйскага. Падбадзёраны гэтым першапачатковым поспехам, маскоўскі ўладар загадаў сваім войскам рушыць далей углыб тэрыторыі Вялікага княства. Прасоўваючыся на захад, маскоўская армія паступова займае адзін за адным гарады Крычаў, Мсціслаў і Дуброўна.

**Свята, якое нам неабходна**

«Шануй сваё! Барані сваё!» — гэтая фраза магла б быць дэвізам беларускага войска.

Тым часам кароль Жыгімонт І Стары здолеў сабраць усяго толькі каля 35000 войска для вайны з усходнім суседам. Яно саступала маскоўскаму па агульнай колькасці, якое налічвала прыблізна 80000 чалавек, але значна пераўзыходзіла яго ў якасці. Асноўная яго частка складалася з добра падрыхтаваных і загартаваных у шматлікіх баях ваяроў, якія прайшлі ўжо не адну кампанію. Агулам сілы Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага ўключалі 16000 літоўскай і 14000 польскай кавалерыі (як лёгкай, так і цяжкай), 3 000 польскай наёмнай пяхоты і 2500 добраахвотнікаў з розных краін Еўропы. На ўзбраенні ў добрай колькасці мелася вогнепальная зброя і гарматы. На чале аб'яднанага войска стаў Вялікі гетман Літоўскі Канстанцін Іванавіч Астрожскі. Маскоўскае ж войска цалкам складалася з коннага апалчэння і не мела артылерыі.

Спачатку месцам збору польска-літоўскай арміі быў прызначаны Менск. Але, прабыўшы там невялікі час, кароль павёў свае сілы ў Барысаў. Там Жыгімонт пакінуў 4-5 тысяч чалавек для абароны горада, а асноўныя сілы — каля 30 тысяч — рушылі насустрач арміі маскавітаў. У канцы жніўня адбылося некалькі сутычак на пераправах праз рэчкі Бярэзіну, Бобр і Друць, але маскоўскае войска пакуль што ўхілялася ад буйнога сутыкнення.

Нясучы нязначныя страты, маскавіты прасунуліся ў раён паміж Оршай і Дуброўна на рацэ Крапіўне, дзе разбілі лагер. Гетман Астрожскі адцягнуў увагу непрыяцеля, пераправіўшы невялікую колькасць кавалерыі на вачах маскоўскіх дазорных. Асноўная ж частка саюзнага войска пераправілася праз раку паўночней па двух пантонных мастах у ноч на 8 верасня. Маскоўскія дазорныя дакладвалі сваім ваяводам аб пераправе войска Вялікага гетмана праз Дняпро, і прапаноўвалі атакаваць яго ў гэты зручны для атакі момант. Але Чаляднін вырашыў не перашкаджаць пераправе арміі Астрожскага, збіраючыся даць таму генеральнае сражэнне і вырашыць усе пытанні ў адной бітве. Сігізмунд фон Герберштэйн, дыпламат Святой Рымскай імперыі, прыпісвае Івану Чалядніну наступныя словы: «Пачакаем да таго часу, пакуль не пераправіцца ўсё войска, бо нашыя сілы настолькі вялікія, што, без сумневу, мы без асаблівага намагання зможам альбо скамячыць гэтае войска, альбо акружыць яго і гнаць, як быдла, аж да самай Масквы. Нарэшце, адзінае, што нам застанецца, — заняць усю Літву».

**Як мы перамаглі пад Оршай**

У беларускім нацыянальным дыскурсе бітва пад Оршай фігуруе як надзвычай значная падзея, авеяная легендамі. Насамрэч, у больш шырокім еўрапейскім кантэксце ў гэтай бітвы было зусім іншае значэнне: найперш геапалітычнае, а не вайсковае. Вайсковай карысці з гэтай перамогі для ВКЛ пасутнасці не было ніякай. Чаму?

Саюзнае войска пачало рыхтавацца да галоўнай бітвы з маскавітамі. Гетман Канстанцін Астрожскі разгарнуў сваю армію ў дзве лініі. Спераду ён размясціў два кавалерыйскія палкі, ВКЛ і каронны, якім камандаваў Войцэх Сампаліньскі. У другой лініі месціліся яшчэ два конных палка пад камандаваннем Юрыя Радзівіла і Януша Свярчкоўскага. Паміж імі стаялі атрады пяхоты з вогнепальнай зброяй. Маскоўскае войска, на чале якога стаялі ваявода Іван Чаляднін і князь Міхаіл Булгакаў-Голіца, было пабудавана ў тры лініі. Фармальным кіраўніком быў прызначаны Чаляднін, але на справе кожны маскоўскі ваявода быў сам па сабе, каардынацыя паміж флангамі ў маскавітаў амаль адсутнічала.

***(працяг на стар. №4)***

РАСІЯ

# АТАКА НА ПУГАЧЕВУ. «ГАЛКИНУ С НАМИ НЕ ПО ПУТИ»

**Как Пугачеву и ее семью критикуют «патриоты». В спор Галкина и Пугачевой с пропагандистами включился и Дмитрий Песков.**

Пресс-секретарь президента Путина отделил юмориста Галкина с его антивоенной позицией от его жены, певицы Аллы Пугачевой. «Есть артисты, которые буквально себя запятнали совершенно непристойными и неприемлемыми заявлениями», — сказал Песков. — Я не слышал ни одного заявления Аллы Пугачевой, а супруг — да, ему явно с нами не по пути, супруг делал очень плохие заявления». По его словам, Максим Галкин «делал заявления, в которых сам себя антагонизирует со всеми нами».

Песков добавил, что президент Путин «относится к Пугачевой вполне нормально», они знакомы, не раз встречались.

Максим Галкин начал критиковать войну России против Украины еще в конце февраля. Тогда же стало известно, что Галкин, Пугачева и их дети уехали в Израиль. Галкин комментировал военные преступления российских солдат в Буче и говорил, что войне не может быть никаких оправданий.

После этого его лишили эфира на российском «Первом канале»: были сообщения, что причиной послужили именно антивоенные высказывания юмориста. СМИ сообщали, что Галкин в первые же дни войны лишился рекламных контрактов.

Пугачева не комментировала войну в Украине.

**Что писали «патриоты» и как отвечала Пугачева**

Тем не менее певица уже весной попала в опалу у российских «патриотов». В апреле Михалков в эфире своей передачи «Бесогон-ТВ» поставил песню «Не живи с нелюбимой страной». Под песню он показал фотографии Пугачевой, Земфиры, Макаревича, Хаматовой и других знаменитостей, которые уехали из России с началом войны.

Пугачева с детьми вернулась в Россию в конце августа. Одним из первых ее публичных появлений стала церемония прощания с Горбачевым.

Ее пост об этом напоминал политический манифест. *«Давно я так не рыдала,* — написала певица в *„Инстаграме“. — Ушла ЭПОХА, в которой мы обрели свободу, перестали быть „империей зла“ для всего мира и исчез страх за будущее своих детей. И главное, Горбачев отвергал насилие как способ политики и удержания собственной власти».*

Приехав в Россию, Пугачева начала отвечать на критику.

На вопрос репортеров журнала Super, что Алле Пугачевой хотелось бы сделать в Москве после возвращения, она ответила: ***«Морду набить одному человеку»***, но не объяснила, кому именно.

Три дня назад певица заочно ответила Михалкову. В «Инстаграме» Пугачева опубликовала отрывок из фильма Михалкова «Раба любви». «Господа, вы — звери! Господа, вы будете прокляты своей страной, солдаты», — говорит героиня фильма.

*«Прекрасный фильм. Прекрасный режиссёр. Куда же исчез прекрасный человек Никита Сергеевич Михалков?»* — написала Пугачева.

На возвращение певицы в Россию отреагировал и провластный журналист Владимир Соловьев. «Кто вообще решил, что если человек был когда-то великим, то его величие подтверждается молчанием в самые важные моменты в истории. Вернулась, чтобы детей в школу отправить? И не заметила, что муж нес, и не сказала ни слова? Приехала зачем? Деньги кончились?» — рассуждал он в своей передаче.

Вскоре Пугачева ответила и Соловьеву. *«Жаль Володю. Так ведь и лопнуть можно от злости и хамства»,* — написала она в «Инстаграме».

**Антивоенных артистов в России «отменяют»**

После вторжения в Украину в России начали отменять спектакли, концерты и мероприятия «несогласных» знаменитостей.

В апреле Большой театр отменил балет «Нуреев» Кирилла Серебренникова и оперу «Дон Паскуале» Тимофея Кулябина. Оба режиссера высказывались против войны, а Серебренников переехал за границу.

В начале сентября журнал «Театр» сообщил, что московским театрам поступило распоряжение снять с репертуара спектакли Дмитрия Крымова. Известный режиссер тоже уехал за границу после начала войны. Театр имени Пушкина, «Мастерская Петра Фоменко», «Школа современной пьесы» и «Школа драматического искусства» уже убрали из афиш спектакли Крымова.

В августе отменили фестиваль «Части света 2022», арт-директором которого был музыкант Борис Гребенщиков. Он тоже не принял войну и уехал из страны.

За антивоенную позицию наказывают и рок-группы: тем, которые высказывались против вторжения в Украину, не дают выступать в России.

Группа Anacondaz решила судиться с властями после того, как множество их концертов сорвали или отменили. Группа «Элизиум», в 2021 году записавшая песню о сидящем в тюрьме Навальном, обратилась к подписчикам с просьбой заказывать им корпоративы, так как по-другому выступать в России у них не получается. «Главное — не афишируйте этот праздник, иначе его попытаются сорвать соответствующие органы», — написали они.

Лидера группы ДДТ Юрия Шевчука суд оштрафовал за слова, сказанные им на концерте. «Опять гибнет молодость России и Украины, гибнут старики, женщины и дети. Ради каких-то наполеоновских планов очередного нашего Цезаря, да?» — сказал Шевчук со сцены, добавив, что «Родина — это не жопа президента». Фраза стала крылатой, а полиция усмотрела в его словах «дискредитацию» российской армии.

**www.bbc.com/russian**

ГОД ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ

*(пачатак на стар. №3)*

**Бітва пад Оршай**

Неўзабаве пасля світання 8 верасня 1514 года Булгакаў-Голіца аддаў загад аб пачатку наступлення. Маскавіты спрабавалі абысці літвінаў з флангаў, якія былі ўкамплектаваныя польскімі і літоўскімі лёгкімі гусарамі. Але ваяры Астрожскага здолелі адбіцца і пры падтрымцы польскай цяжкай кавалерыі перайшлі ў контратаку. Маскоўская атака захлынулася, маскавіты былі вымушаны адысці да сваіх зыходных пазіцый. Гэта быў першы сігнал аб магчымай паразе, але Чаляднін па-ранейшаму быў упэўнены, што суадносіны армій амаль 3 к 1 на карысць яго войска усё адно павінны прынесці яму перамогу. Пры гэтым, ён быў цалкам заклапочаны толькі ўласным флангам (так званай «рукой») свайго войска. Добра бачачы, у якім стане аказаўся Булгакаў-Голіца, ён, тым не менш, зусім не спяшаўся таму на дапамогу. Сучасныя даследчыкі мяркуюць, што гэта стала вынікам дрэнных адносін паміж ваяводамі, кожны з якіх хацеў асабіста выслужыцца перад маскоўскім князям і прыпісаць перамогу менавіта сабе.

Тым часам, літоўская і польская конніца атакавалі перанапружаны цэнтр ліній маскоўскага войска, спрабуючы іх раскалоць. У вырашальны момант кавалерыя Вялікага княства як бы пахіснулася, потым пайшла ў адступленне. Гэта быў загадзя спланаваны Астрожскім манеўр. Маскавіты з крыкам «Літва ўцякае» перайшлі ў павальны наступ усімі кавалерыйскімі рэзервамі. У атаку іх павёў непасрэдна сам Іван Чаляднін, які спрабаваў такім чынам выправіць дрэнную для яго сітуацыю на полі бою. Літоўскія кавалерыя пасля некалькіх хвілін адступлення раптам раз'ехалася ў розныя бакі. Коннікі Чаляднiна апынуліся ў пастцы. Яны трапілі пад шчыльны гарматны агонь літоўскай артылерыі, што была схаваная перад бітвай і прыкрытая шэрагамі пяхоты. Тут з абодвух бакоў з'явіліся польскія і літоўскія кавалерысты, якія пачалі абкружаць ворага. Сярод акупантаў пачалася паніка. Спачатку правы фланг, а за ім і ўсё войска кінуліся ўцякаць. Асноўныя страты маскавіты зазналі як раз падчас гэтых уцёкаў. Ахопленыя страхам, яны танулі ў балоцістых водах Крапіўны ў такой колькасці, што тая выйшла з берагоў. Войска Вялікага Княства Літоўскага пераследавала адступаючых амаль 60 кіламетраў.

Як пісаў вядомы расійскі гісторык Карамзін у сваёй «Истории государства Российского»: «Літвіны ніколі не атрымлівалі такой славутай перамогі над маскавітамі: гналі, рэзалі, тапілі іх у Дняпры і Крапіўне; целамі ўсеялі палі паміж Воршай і Дуброўнай...»

У гэтай бітве маскоўскае войска зазнала страшэнныя страты. Паводле звестак польскіх хронік і лістоў караля Жыгімонта І іншым еўрапейскім уладарам, у бітве пад Оршай з боку Масквы загінула сама мала 30 тысяч чалавек і яшчэ вялікая колькасць была ўзята ў палон, у тым ліку паланёнымі аказаліся Іван Чаляднін і Міхаіл Булгакаў-Голіца.

**Наступствы бітвы**

Армія Астрожскага працягвала наступ услед за разбітым рускім войскам і паступова вярнула сабе большасць раней захопленых крэпасцей, у тым ліку Мсціслаў і Крычаў. Аднак літоўскія і польскія сілы былі занадта знясіленыя, каб хутка аблажыць Смаленск. Астрожскі змог дасягнуць Смаленска толькі ў канцы верасня, што дало князю Шуйскаму дастаткова часу для падрыхтоўкі абароны. Але агульнае прасоўванне маскоўскай арміі на працяглы час было спынена.

У снежні 1514 года гетман Канстанцін Астрожскі з трыумфам увайшоў у Вільню. У гонар яго перамогі былі ўзведзены дзве праваслаўныя царквы: царква Святой Тройцы і царква святога Мікалая, якія і цяпер застаюцца аднымі з найбольш уражлівых прыкладаў праваслаўнай царкоўнай архітэктуры горада. З снежня сам кароль Жыгімонт даў у гонар непераможнага гетмана ўрачысты прыём. Астрожскага пачалі зваць «Сцыпіёнам Рускім», параўноўваючы яго са славутым рымскім палкаводцам Сцыпіёнам Афрыканскім, што некалі абараніў Рым ад небяспекі з боку Карфагена.

Палітычныя наступствы Аршанскай бітвы цяжка пераацаніць. Германскі імператар Максіміліян І быў настолькі ўражаны размахам перамогі Канстанціна Астрожскага, што забыўся на ўсе свае планы хаўрусу з Масквой і пачаў мірныя перамовы з каралём Жыгімонтам у Вене. У наступным 1515 годзе былі заключаны канчатковыя пагадненні аб міры і кааліцыя супраць Літвы і Польшчы, якую спрабаваў стварыць маскоўскі ўладар, назаўжды спыніла сваё існаванне.

**Іван Палескі**

**больш фота тут: novychas.onlin**

УКРАЇНА - РАСЕЯ

# «БОРЩ ЗАЛУЖНОГО», АЛИН ПРО ИЗЮМ ИЛИ КАК УКРАИНА МЕНЯЕТ ХОД ИСТОРИИ

**Что эксперты и лидеры мнений говорят об успехах ВСУ на Харьковском направлении — серьезно и не без юмора.**




Украинский военный эксперт Игаль Левин делает первые выводы из происходящего на Харьковщине и о войне в целом:

— Россия воюет тактикой Первой мировой. Окопы, статичный фронт, концентрация артиллерии, лобовые атаки на укрепления врага, цепи из пехоты на пулеметы — вот это все. Кроваво, занудно, примитивно: если много арты и мяса, то эффективно.

Украина, по мнению эксперта, воюет тактикой Второй мировой:

— Это или партизанщина, как это было в начале полномасштабного вторжения: впустить врага внутрь, расчленить его колонны, разгромить логистику, измотать и заставить уйти. Все как финская армия 1940 года завещала.

Еще один вариант, предложенный Игалем Левиным — мобильная механизированная война: массированные удары с воздуха (HIMARS заменили собой ударную авиацию), уничтожение тылов, узлов связи, командования и логистики и после этого прорыв танками и мотопехотой на оперативный простор со стремительным продвижением вперед.

Очевидно, что тактики Второй мировой одолеют верх над примитивной тактикой Первой мировой. Да, танки, механизированные части, огневой контроль, хорошо налаженная связь и логистика — все это никуда не ушло. По-прежнему, не просто актуально, а именно многое решает, делает вывод эксперт.

Российский публицист Александр Невзоров в свойственной ему манере делится рецептом «борща Залужного», который «долго держался в секрете» и сегодня стал известен:

— Ощипываются и кускуются 5 полков мотопехоты и росгвардии РФ, к ним добавляется пара мелко нарубленных полков ВДВ РФ и хорошо прожаренные саперные роты.

Делается крепкий бульон, в который шинкуется 3 дивизии «голодротов ЛНР». По вкусу добавляется необходимое количество головок ФСБ.

Свекла не нужна. «Борщ Залужного» приобретает классический красный цвет естественным образом.

Историк и политолог Александр Фридман цитирует западную прессу: «Крупнейшее контрнаступление со времен Второй Мировой войны», «25000 российских солдат, которые могут попасть в украинский плен». Западные военные эксперты едины в одном: на наших глазах Украина меняет ход истории«.

Медиаменеджер Серж Харитонов считает, что Кремль делает виновниками и ответственными за крах российской армии в Харьковской области самих военных. Сами же российские власти заняты праздничными концертами на радость жителей столицы.

— Следующий лозунг российской внутренней повестки, вероятно, будет выглядеть так же, как и сто лет назад. Вопрос только в том, кто озвучит лозунг новой российской революции — и каким количеством жертв она обернется для российских имперцев и революционеров на этот раз, — пишет Харитонов.

**Салідарнасць**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# НЕ СМОГУТ РАБОТАТЬ ПО УПРОЩЕННОЙ СИСТЕМЕ

**Белорусские власти намерены усложнить жизни частным предпринимателям. Через три месяца для ИП в Беларуси отменят «упрощенку» и повысят подоходный налог.**

Для того, чтобы в том числе и «подтолкнуть» бизнесменов к преобразованию ИП в юридическое лицо, вводятся новые правила налогообложения.

Со следующего года, до которого осталось всего 3,5 месяца, индивидуальные предприниматели не смогут работать по упрощенной системе налогообложения. Кроме того, ставка налога на прибыль для индивидуальных предпринимателей будет увеличена с 16 до 20%, а с 2024 года до 25%. Эти нововведения все больше подталкивают ИП к созданию микроорганизаций.

Сегодня на совещании с правительством Александр Лукашенко заявил, что для частного бизнеса главными условиями в Беларуси являются прозрачность и возможность контроля предпринимательской деятельности.

Он также «отправил на доработку» законопроект о предпринимательстве, потребовав четко определить в нем виды деятельности, которыми могут заниматься ремесленники, индивидуальные предприниматели и юрлица.

Именно на эти три категории (четко очерченные) предлагается с 2023 года поделить ИП. Самозанятые, у которых нет наемных работников, могут перейти на уплату «профессионального дохода», который будет выше аналогичного российского. При работе с физлицами он составит 10%. А если доход (не прибыль) превысит 60 тысяч рублей, налог удвоится. Но 20% предпринимателям придется заплатить с суммы, превышающей потолок.

Еще один вариант для ИП — переход на единую форму налога на прибыль по повышенной ставке в 18%.

**Дмитрий Ячменев**

**blizko.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: bigsmoll2007@gmail.com
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 16.09.2022 у 16.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.